# За навагодняй ёлкай

Беленькі сняжочак
Пад санкамі скрыпіць,
Шэрая кабылка
Весела бяжыць.

Сняжыначкі-пушыначкі
Дарогу пакрываюць,
Высокія яліначкі
У футру адзяваюць.

Нам патрэбна ёлачка,—
Зрубім у бары.
Колькі будзе радасці
Нашай дзетвары!

Міхась Шарай
і Васіль Бурбік.

Вучні Мардашэвіцкай НСШ
Дубровенскага раёна.



ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
Год выдання трынаццаты Студзень 1941 г. № 1



# Як Леніну сяляне прыслалі дроў

*М. Зошчанка*

Рыс. М. Карпенка

Ленін нярэдка спаў пры адчыненым акне. Купаўся ў халоднай ледзяной вадзе. І працаваў у прахладным пакоі.

Ён быў загартованы чалавек. І гэта было яму карысна.

Акрамя таго, ён казаў, што гарачыня расслабляе чалавека і паніжае яго працаздольнасць.

І з гэтае прычыны ён не дазваляў вельмі напальваць печы. Дык у яго кабінеце заўсёды было прахладна.

І шмат хто здзіўляўся гэтаму, калі траплялі ў яго кабінет. І нават, у звязку з гэтым, вось што адбылося.

Прыехалі да Леніна хадакі: сельскія жыхары выправілі іх па сваіх сялянскіх справах.

І сярод гэтых хадакоў быў нехта таварыш Іваноў.

Ленін прыняў яго. Ветліва пагутарыў. Абяцаў зрабіць усё, што трэба. І прагаманіў з ім не менш як трыццаць хвілін.

Дык вось, сядзіць таварыш Іваноў у Леніна ў кабінеце і адчувае, што яму халаднавата. Крыху нават яго дрож прабірае.

Іваноў падышоў да печкі, памацаў рукою. Чуе—печка ледзь цёпленькая.

Вядома, ён Леніну нічога не сказаў, але зрабіў вывад, што ў Леніна з дравамі няважна. Тым больш, ён чуў, што ў Маскве дроў мала. Бадай што няма дроў. І купіць няма дзе.



І вось вярнуўся ён у сваё роднае сяло. Расказаў сялянам, што Ленін цалкам задаволіў іхную просьбу. І тым часам, сказаў сходу:

— З ежаю ў Маскве кепска. А з дрывамі і яшчэ горш. Мерзне наш дарагі Ільіч. На печ у яго і то дроў не стае.

Тут пачуліся галасы, воклікі:

— Хлусіш! Не можа быць! Няўжо-ж Ільіч мерзне ў сваім кабінеце?



Іваноў кажа:

— Каб мае вочы не глядзелі, калі я хлушу. Ад холаду я зубамі ляскацеў, пакуль сядзеў у яго кабінеце.

Тут шмат хто пачалі казаць прамовы— моў, самі мы топім печкі да таго, што нам ад гарачыні нядобра робіцца. А тым часам, Ленін мерзне ў сваім кабінеце. Дапаможам Ільічу. Увесь лес да шчэнту высечам, а ўжо ў дравах яму не адмовім.

Бярэ слова адзін каваль ды кажа:

— Дроў паслаць трэба. Але справа, можа быць, не толькі ў дравах, а і ў печцы. Дазвольце задаць прамоўцу пытанне—якая іменна печка ў кабінеце ў Леніна?

Іваноў адказвае:

— Печка ў яго вялікая, белая. Здаецца, быццам глянцавітая. Ледзь цёпленькая.

Каваль кажа:

— З слоў прамоўцы відаць, што печка ў яго галандская... Ах, гэтыя галандскія печы і дроў занадта шмат з'ядаюць і слаба трымаюць цяпло. Прапаную гэтую печку перакласці. А яшчэ лепш—я вазьмуся паставіць у яго кабінеце звычайную жалезную печку, ад якое гарачы дух будзе ісці ад раніцы і да раніцы.

Старшыня сходу гаворыць:

— Аб гэтым трэба запытацца ў Леніна—ці дазволіць ён табе рабіць рамонт. Бо ты ў яго наробіш смецця— зайсці нельга будзе. Што-ж датычыць дроў, дык прапаную адправіць таварышу Леніну вагон дроў і прыкласці пісьмо— моў, пасылаем і раім, паліце чым пабольш. А спаліце гэтыя дровы,—яшчэ падкінем і цалкам забяспечым вас гэтым дабром да самага лета.

І вось сяляне напілілі ды накалолі дроў багата-багата

Выстараліся ў чыгуначнікаў вагон. І тыя далі, таму што ўжо вельмі паважаны адрасат. І гэты вагон дроў адправілі ў Маскву. Карацей кажучы, аднаго марознага студзеньскага дня Леніну даставілі вагон дроў з Уладзімірскай губерні Судагодскага павету.

Спачатку Ленін здзівіўся, а потым, даведаўшыся, у чым справа, пасмяяўся.

І загадаў аддаць гэтыя дровы ў дзіцячы дом.

*З рускае мовы пераклаў* Р. МУРАШКА.



# Як Соня па доктара хадзіла

Янка Маўр

Рыс. Кацмана

Соня жыла пры школе. На іхнім дварэ больш ніхто не жыў, апрача дзеда Максіма. Ды і той жыў недзе схаваўшыся ў вялізным школьным будынку. Удзень тут быў вялікі шум і гам, а калі вучні разыходзіліся, рабілася зусім ціха. Маці тады прыбірала класы; часта з ёю была Соня, а яшчэ часцей—яна спала і сніла дзіцячы сад, цёцю Полю, ляльку Муську і Мішку.

Але сёнешні вечар быў асаблівы: заўтра будзе свята, якое называецца Новы Год. А таму ў дзіцячым садзе заўтра будзе ёлка. А ўбрана яна будзе так багата, так прыгожа, як нідзе на свеце. А цацак на ёй будзе многа-многа, цэлых сто. А дзеці будуць скакаць вакол яе і спяваць, спяваць, спяваць... Хіба можна спаць, калі заўтра будзе такая ёлка?



Увайшла мама і, не сказаўшы Соні аніводнага ласкавага слова, лягла на ложак. Соня здзівілася і пакрыўдзілася. Калі гэта было, каб мама ўвайшла ў хату і не звярнула на Соню ўвагі? У такім разе і яна не будзе звяртаць на маму ніякай увагі.

Але мама войкала, стагнала, садзілася на ложак, зноў лажылася, кідалася. Соня спалохалася і падышла да ложка.

— Дачушка, дай вады,—прахрыпела яна.—Ох, што са мною робіцца... Не магу нават устаць... Хто-ж мне дапаможа?..

Соня падавала ёй вады, плакала, але ад гэтага маме не рабілася лягчэй.

— Доктара... Ах, каб можна было доктара...—паўтарала маці.—Схадзі, дзетачка, папрасі сюды дзеда Максіма.

Соня вышла на цёмны двор, сунулася ў адны дзверы—зачынены, у другія—зачынены. І ўсюды ў вокнах цёмна; як тут знайсці дзеда Максіма? Яна вярнулася і сказала, што дзеда Максіма няма. Зноў заенчыла мама:

— Хоць-бы якога чалавека ўбачыць?.. А то памерці можна без дапамогі...

Вельмі хацелася Соні дапамагчы маме, але якім чынам? І тут ёй прышла думка:

— Мама, я пайду ў дзіцячы сад да цёці Полі і папрашу, каб яна пашукала доктара.

У адказ мама толькі застагнала ад новага прыступу болю. Соня спалохалася, закрычала і выбегла на двор.

Соня пусцілася бегчы па знаёмай дарозе. Але вуліца здавалася ўжо нібы і не-







знаёмай; дамы былі пахмурыя, людзі суровыя, аўтамабілі з двума блiскучымі вокамі—зусім страшныя.

Падбегшы да свайго дзіцячага сада, яна не пазнала яго: дом быў цёмны, зачынены, і нікога ў ім не было відаць. Соні зрабілася страшна і яна заплакала.

— Дзяўчынка, чаго плачаш?—пачула яна над сабой жаночы голас і чыясьці рука дакранулася да яе. Соня падумала, што гэта цёця Поля, але ўбачыла зусім незнаёмую цёцю.

— Ну, чаго плачаш?—пыталася жанчына.—Заблудзіла?

— Не.

— Сама можаш дайсці да дому?

— Магу.

— Тады ідзі, позна ўжо,—сказала жанчына і пайшла далей.

Калі жанчына адышла, Соні зрабілася яшчэ больш страшна. Плачучы, пайшла яна па вуліцы, не заўважаючы, што ідзе зусім у другі бок ад дому...

Раптам яна пачула, як з аднаго вялікага дому, што на другім баку вуліцы, ідзе гул, шум, крыкі, музыка, спевы, а вокны аж гараць ад яркага святла. Глянула туды—і адразу забылася і на свой плач і на сваё становішча: там зіхацела ёлка, уся ў агнях, у золаце і ўсялякіх колерах. А вакол яе дзіцячыя галовы (саміх дзяцей яна не магла бачыць).

Азіраючыся па баках, каб не трапіць пад аўтамабіль, Соня перабегла вуліцу і падышла да дзвярэй школы. Праз дзверы безупынна выбягалі і прыбягалі вучні, і Соні няцяжка было ўвайсці ў сярэдзіну.

У цёплым пальто і шапачцы, у белых валёнках з калошамі яна падышла да дзвярэй і з захапленнем стала сачыць за тым, што адбывалася ў зале. Далучацца да дзяцей яна не адважвалася, бо сярод іх не было ніводнай аднагодкі яе.

Нарэшце яе заўважыла адна настаўніца, падышла да яе і спыталася:

— Ты чыя, дзяўчынка?

Соня не магла адказаць на такое пытанне.

— Што робіць твая мама?—спытала тады настаўніца іначай.

— Класы прыбірае,—адказала Соня.

Настаўніца падумала, што гэта дачка адной з школьных прыбіральшчыц.

— Раздзявайся, дзяўчынка,—сказала яна,—і ідзі да нас.

Настаўніца раздзела Соню, узяла за руку і падвяла да ёлкі.

— Вось вам госця,—сказала яна дзецям,—дзяўчынка нашай прыбіральшчыцы. Пагуляйце з ёю.

Такім чынам Соня зрабілася не толькі поўнапраўнай удзельніцай святкавання, але і паважанай госцяй, якую даглядалі і забаўлялі. Нядзіва, што з галавы яе вылецелі ўсе турботы, нават хвароба мамы. Яна гуляла і весялілася, як усе. Калі дзеці ўзяліся за рукі ды пайшлі вакол ёлкі ды заспявалі «В лесу родилась елочка», то звонкі галасок Соні заглушыў усе галасы і рэбяты нават запляскалі ёй рукамі.

— Вось якая ты птушачка-пяюшачка!—сказала настаўніца.—На табе за гэта птушку.

І яна зняла з ёлкі яркага папугая. Соня схапіла папугая абодвума рукамі і прыціснула да грудзей. Ах, якая гэта была цудоўная птушка. І сіняя, і жоўтая і чырвоная, і нямаведама якая яшчэ. Аднаго разу Соня нават прасіла маму купіць ёй такую птушку...

Мама... Яна-ж хворая цяпер ляжыць... А Соня пайшла па доктара і гуляе сабе...

І буйныя слёзы закапалі на яркага папугая...

Да чаго-ж здзівіліся дзеці і настаўніца. Абступілі Соню, пытаюцца:

— Чаго ты плачаш, дзяўчынка? Што з табой? Хто цябе пакрыўдзіў?

— Мама хворая... Трэба доктара.

— Хто твая мама? Дзе яна? Тут?

— Не. Яна дома.

Паклікалі прыбіральшчыцу, спыталіся, чыя гэта дзяўчынка. Яна адказала, што не ведае яе, што ні ў каго з служачых школы такой дзяўчынкі няма.



— Дзе ты жывеш? — спыталіся зноў у Соні.

— У школе,—адказала яна.

— У якой?

Гэтага яна не ведала.

— Выходзіць, што нашу дарагую госцю прыходзіцца адправіць у міліцыю,—сказала настаўніца.—Яе мама прыдзе ў міліцыю і возьме яе.

— Мама не прыдзе,—сказала Соня.

— Чаму?

— Яна хворая. Ляжыць.

— Тады прыдзе хто-небудзь другі: татка, цёця, брат ці сястра.

— Нікога няма. Ёсць толькі мама і я.

Сабралося больш настаўнікаў і ўсе ламалі галаву, што рабіць з гэтай дзяўчынкай.

— Тады няхай яна пагасціць у нас, хаця-б у мяне, пакуль мы даведаемся, куды яе адправіць,—сказаў адзін з настаўнікаў.

Але тут Соня зусім разраўлася.

— Мама хворая... ляжыць... Трэба, каб доктар прышоў.

— Як бачыце, тут справа больш складаная і сур'ёзная,—сказаў дырэктар, звяртаючыся да настаўнікаў і прыціхшых вучняў.

Тады выступіла піонерка Ната і сказала:

— Можна зрабіць так: выберам дзесятак бліжэйшых школ і пашлем у кожную з іх па два-тры піонеры, каб яны параспыталі ці не прапала ў каго там дзяўчынка і хто там хворы.

... Ужо праз пятнаццаць мінут пачалі вяртацца першыя разведчыкі, а яшчэ праз некалькі мінут прышлі трое піонераў і сказалі што ў 31-й школе яны сапраўды знайшлі хворую прыбіральшчыцу і што яе дачка, маленькая Соня, пайшла кудысьці шукаць дапамогі.

Піонеры павялі Соню дадому, а дырэктар па тэлефону папрасіў у 31-ю школу доктара.

Не паспела Соня дома раздзецца, як прыехаў доктар.

Доктар супакоіў боль, прыслаў на ноч медыцынскую сястру. А назаўтра мама ўжо стала на ногі.



*Пятрусь Броўка*




Быў я ў Мінску першы раз,—
На скачкі паслаў калгас.

Заявіўся я з канём
На вялізны іпадром.

Праз мінуту быў парад...
Еду з коннікамі ў рад.

Праскакалі мы кругом,
Сталі роўненька, ладком.

Заіграў аркестр
Як гром,
Узмахнуў старцёр
Сцяжком!

На адну з блізкіх застаў
Я паважыў,—
І памчаў.
І, як коннік-піонер,
Уміг узяў адзін бар'ер.

Я на выскачкі пайшоў,
Пераскочыў цераз роў...

А пасля як шугану
Праз каменную сцяну,—

Ні цагліны, ні шнурок
Не кранкў на валасок.

Скончыў я,
На месца стаў.
Хтосьці голасна сказаў:
Піонер на справе спрыт,
Будзе слаўны ён джыгіт!



Заіграў ў трубу гарніст...
Старшыня падаў мне прыз.



Рыс. А. Сапетка

# Галубы

Нас пяцёра ўсіх сяброў,
Мы разводзім галубоў.

Для прыгожых лятуноў,
Што пяюць: вур-ку... вур-ку...
Кожны скрыначкі завёў
У сябе на чардаку.



Раніцой, як сонца ўсход—
Варкуны ідуць ў палёт.
Узляціць у высь,
Як бач,—
Ці то просты,
Ці трубач.

Толькі відны кропкі нам,
Што як мятлікі плывуць...
Ці як часам турман там
Дасць круга праз галаву.
Кожны з нас глядзець гатоў
Дзень за лётам галубоў.

---

Раз паехаў наш Пятрок
У бліжэйшы гарадок.

Ён прасіў нас, каб паўднём
Пад яго прышлі мы дом.
— Сёння, кажа,—вас адна
Там чакае навіна.
Развітаўся з намі ён . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось прышоў
І той паўдзён.
Мы на прызьбе ўсе сядзім
На ягоны дом глядзім,
Хоць-бы што,
Нібы знарок...
Падмануў, відаць, Пятрок.

Раптам сумнівам канец!
Бачым мы—
Ляціць ганец,
Пад імклівым галубком
На назе шнурок з кальцом.

Здабылі кальцо мы ўміг
І знайшлі пісьмо для ўсіх:

„Пасылаю вам здалёк
Прывітанне.—
Ваш Пятрок".







# Дапамагаем
## што нам тр

А. Бялевіч і З. Талесін.

1

Клён ля хаты заінеў,
Рукавічкі я надзеў.
Папа дровы стаў пiлiць,
Я паленні стаў насіць
І складаю пад страхой,
Каб не мёрзнуць нам зімой.

2

Мама вышла па ваду,
Я за ёю ўслед іду,
Я нікому не сказаў,—
Качаргу з сабою ўзяў.
Журавель—намёрз, скрыпіць,
А вядро назад бяжыць.
Дужку ўздзеў на качаргу,—
Маме несці памагу.







## папе, маме,
## а робім самі

Рыс. А. Заборава



3

Ноч і ранак падаў снег,—
Гурбы выраслі да стрэх.
Каб у школу мне пайсці
Трэба сцежкі праграбсці,—
І з лапатай вышаў дзед.
І цяпер іду я ў след.
Стаў ён сцежкі прачышчаць,
Я мятлою падмятаць.

4

Пракаціцца-б па ляду,
Толькі тут, як на бяду, -
У мяне няма канькоў.
Але-ж выхад я знайшоў:
Выразаю я брускі,
Падбіваю я драткі.
Вось гатовы і канькі,
Лепей іх—няма нідзе,
Нават на адной назе
Я лячу—аж лёд гудзе.











# КАШТОЎНЫ КЛАД

*М. Паслядовіч*

Рыс. Э. Эйдэльмана

Калгас „Зялёны бераг", разам з суседнімі калгасамі раёна, вырашыў асушыць агромністае балота. У падрыхтоўцы да такой вялікай работы шмат дапамаглі дарослым і школьнікі. Старшыня калгаса паабяцаў ім за гэта наладзіць экскурсію ў пушчу, да бабровай плаціны.

І вось хлопцы разам з настаўнікам накіраваліся ў падарожжа на лодках. Яны бачылі, як узрывалі старую бабровую плаціну, як зароў і запеніўся вызвалены паток. Нястрымны націск вады ўдарыў у рэдкія, апусцелыя хаткі бброў, параструсаў іх і пацягнуў за сабою...

Дабраліся да бабровай затокі. Тут усё змянілася! Вада панізілася больш як на метр, агаліўшы ў некаторых месцах дно. Яна цякла ўжо з меншай імклівасцю. Нейкія доўгія і чорныя пачвары застылі як камені на дне былой затокі. Яны нагадвалі агромністых казачных самоў, якія прытаіліся ў чаканні здабычы. Мечык першы заўважыў іх:

— Глядзіце, глядзіце!—закрычаў ён, паказваючы рукою.—І тут во, і там, а вунь яшчэ адно... Што гэта такое?

Настаўнік паглядзеў у бок, куды паказваў Мечык.



— Звычайныя калоды, затопленыя ў часе паводкі,—адказаў ён.

— Але як яны сюды трапілі?—запытаўся Геня.

— Яны маглі затануць у час сплаву...

— Дык-жа па гэтай рэчцы не сплаўляюць цяпер лесу.

— Ну, такая справа магла быць і год трыццаць, пяцьдзесят і нават сто таму назад...

— Сто год?!—усклікнуў Мечык.

— Так. Сто. Магчыма нават і дзвесце.

— І дзвесце?!!... І калоды не пагнілі, не рассыпаліся на трухлю?

— Не,—усміхнуўся настаўнік і дапытліва агледзеў хлопцаў.— Ну, хто скажа, чаму калоды, праляжаўшы год сто ў вадзе, не рассыпаліся на трухлю?

— Вельмі проста—адказаў Генька.—Да дрэва не было доступу паветра. У вадзе дрэва гніе больш павольна, чым на паверхні зямлі.

— Правільна.

Мечыку раптам захацелася памацаць рукою дрэва, якое праляжала ў вадзе цэлых два вякі!

— Давай, Генька, спіхнем лодку і даплывем вунь да той тоўстай калоды,—прашаптаў Мечык Геньку.

— Давай,—згадзіўся Генька.

Калода, да якой яны вырашылі дабрацца, была крокаў за дваццаць ад берага. Адзін канец яе, пакрыты дробнымі вадаростамі, ужо тырчэў над паверхняй вады. Хлопцы захапілі з сабою сякеру і адпіхнулі лодку ад берага. Настаўнік і астатнія хлопцы з цікавасцю сачылі за рухамі Мечыка і Генькі.

— Вунь там яшчэ адна калода,—сказаў Мечык.—А во яшчэ адна. Гэтых мы не бачылі з берагу...

Дно плоскадонкі ўспаўзло на калоду. Мечык першым выскачыў з лодкі і стаў сячы калоду.

Ад першага ўзмаху ў ваду паляцела цэлая скіба вязкага ілу і трухлі. За другім ударам

сякера напаткала нешта цвёрдае, як косць. Хвілін праз дзесяць у яго руках апынуўся кавалак цвёрдага чорнага дрэва. Генька ўрачыста падняў здабычу над галавою.

— Глядзіце! Відаць, стрыжань. Ледзьве адсек...

— Хутчэй вязіце кавалак сюды!—крыкнуў настаўнік.

Уважліва аглядзеўшы трэску ён сказаў:

— Каштоўны клад! Каштоўны клад!

Хлопцы нічога не разумелі.

— Ды што за клад?—пыталіся яны.

— Растлумачу пасля...

— Пачакайце, я паеду сам пагляджу.

Як толькі настаўнік ад'ехаў, хлопцы пераглянуліся.

— Я нічога не разумею,—шчыра прызнаўся Генька.—А ты?

— А я думаю, справа тут ясная,—важна прамовіў Мечык.

Усе павярнуліся да Мечыка. І ён, падахвочаны такой увагай, загаварыў далей:

— Гэтыя калоды паўкідалі ў раку невядомыя разбойнікі...

— Ну, ну!—хлопцы яшчэ шчыльней абступілі Мечыка.

— ... І настаўнік ведае гісторыю ўсяго гэтага. Можа нават ведае, як разбойнікі называліся... І... калі яны разбойнічалі...

Ніхто ўжо не перапыняў Мечыка, але ён скончыў нечакана хутка.

— ...І ў гэтых калодах схаваны старадаўнія грошы! Можа нават і зброя!

— Адкуль ты ведаеш? І як гэта: схаваць грошы ў калоду?

— Ды вельмі проста. Пракруціў доўгім свярдзелкам дзірку, насыпаў туды грошай—золата там ці срэбра—і забіў клінам. Разбойнікі заўсёды так рабілі.

А Генька, тым часам разглядаў чорны кавалак дрэва і кожную жылку на ім.

— Я думаю, што гэта не так. Ты толькі паваж на руках гэтую трэску... Бяры, Мечык.

Мечык пагойдаў на руках кавалак калоды.

— Ну што? Цяжкое?—усё больш ажыўляючыся, запытаўся Генька.

— Як волава.

— А цяпер вазьмі ты...

Кавалак абышоў усе рукі. І ўсе хлопцы пацвердзілі, што дрэва сапраўды цяжкое, як волава.

— Ну вось!—урачыста ўсклікнуў Генька.— Цяпер можа хто прыпомніць як знайшлі курскую анамалію?.. Памятайце, што там стрэлка компаса ні з таго ні з сяго павярнулася шыварат навыварат? Сталі шукаць прычыну і... што знайшлі?

— Залежы жалеза,—адказалі хлопцы.—А тут што можа быць? Таксама жалеза?

— Таксама жалеза, — упэўнена адказаў Генька.—Гэты кавалак дрэва такі цяжкі і такі чорны адтаго, што ён насычаны жалезнай рудою! Хто ведае, можа ў гэтым балоце мільёны, калі не мільярды тон гэтай руды! Руды самай высокай якасці!

Хлопцы дапытліва сталі аглядаць дно затокі, якое столькі год хавала ў сабе такую таямніцу.

— Тады пабудуем мы каля нашага калгаса домны, мартэны. Будзем выплаўляць чыгун, сталь. Вакол завода горад цэлы стане... Электрычнасць, трамвай, асфальтавыя вуліцы,— захапляючы гаварыў Генька.

— Садзіцеся ў лодкі!—перапыніў Генькаву фантазію спакойны голас настаўніка.—Наша экспедыцыя варочаецца дахаты. Варочаецца з выдатнымі поспехамі. Ведаеце як завецца той вялікі клад, што мы знайшлі тут? Мы знайшлі мораны дуб. Разумееце, мораны дуб! З яго будуць рабіць самую дарагую і прыгожую мэблю. Мэблю самую моцную. Бліскучую, як адпаліраваная слановая косць... Калі-ж гэтае дрэва адразу выцягнуць з вады на сонца, на вецер—яно за тыдзень спарахнее на пыл, рассыплецца ад першага дотыку. Нам трэба спяшацца да хаты. Сёння старшыня калгаса пазвоніць у горад і скажа пра нашу знаходку і адтуль нам прышлюць спецыялісты. Мы, таварышы, знайшлі клад!.. Рэдкі клад! Дарагі! За гэтыя калоды мы здолеем устанавіць у нашым калгасе гукавое кіно.

Мечыку адразу не спадабалася такая прапанова настаўніка. Мечык больш за ўсё любіў ваенную справу і таму заявіў:

— За гэтыя калоды мы купім гідраплан!..



# Мядзведзь

*Я. Журба*  Рыс. М. Карпенка



Прышла з вятрамі восень,
Шуміць высокі лес.
Пайшоў мядзведзь па лесе,
Далёка ў глуш залез.

Пад ёлкай вырыў яму,
Паслаў у ёй галлё,—
І ўжо гатова ў Мішкі
Зімовае жыллё.

А каб мароз траскучы
Не ўлез к яму зімой,
Наклаў галля над новай
Бярлогаю сваёй.

Вось Мішка ўжо ў бярлозе;
Утульна тут яму.
Паправіў ён галінкі,
Залёг на ўсю зіму.

Прышла зіма-старуха,
Заснуў і лес і бор.
Запелі завірухі,
На ўвесь лясны прастор.

А Мішка і не дбае:
Яго спакойны сон.
Ён спіць на мяккім вецці
Аж да вясенніх дзён.

А як вясна сагрэе
Палі, лясы, сады,—
Мядзведзь з бярлогі выйдзе,
Шукаць сабе яды.








# Вушастая шапка

*М. Лупсякоў*

Апавяданне

Рыс. В. Ціхановіча

Вось як аднойчы загінуў крот...

Гэта было позняй восенню, калі пачырванелі ўжо лісці асін, а дзікія гусі, сабраўшыся статкамі, спраўлялі ў завадзях развітальныя карагоды...

Пад асінай, на ўзлеску, між завадзямі і полем, была невялічкая норка. У ёй і жыў гэты крот. Дакладней кажучы, жыў ён глыбей, у зямлі, а гэтая норка, што была блізка ад паверхні, служыла як-бы галоўным карыдорам ад яго кватэры. Норка вяла ў поле, і пад раніцу крот выходзіў з яе на паляванне. Летам крот падтачваў у полі спелае жыта, ласаваўся і ўвесь час тлусцеў. Так што к восені ён рабіўся вельмі лянівым.

Зусім нечакана памёр гэты крот.

У апошні раз перад зімняй спячкай захацеў выбегчы ён у поле.

Бег крот па цёмнай нары, а на завароце— трах яго нешта па галаве, ды так моцна, што аж у вушах зашумела. Ірвануўся крот у адзін бок, ірвануўся ў другі і—замёр.

Праз колькі часу да той асіны, дзе была нара крата, падышоў стары дзед. Барада ў яго сівая, бровы таксама сівыя, а ў зубах— люлька... Спыніўся дзед, паглядзеў сабе пад ногі і сказаў:

— А вось мы і пабачым, што тут такое папалася,—і люлькай: пых-пых!

Сагнуўся стары, разгроб рукамі зямлю і выцягнуў адтуль краталоўку—прыладу, якой кратоў ловяць. А ў краталоўцы—крот. Адцягнуў дзед пружыну, забраў яго, кінуў у сваю сумку, усміхнуўся задаволена і пайшоў сабе далей, увесь час пыхкаючы люлькаю. А ад люлькі, услед за дзедам, пацягнулася доўгая сівая стужка дыму...

Зімою, у вялікім горадзе, на шумнай вуліцы, ля вітрыны футравага магазіна спынілася адна маці з хлопчыкам. У вітрыне—розныя каўняры і ўсе такія прыгожыя. Але вышэй, над каўнярамі, развешаны цёплыя вушастыя шапкі. Паглядзела маці на іх і сказала хлопчыку:

— Ну, Міця, куплю я табе зімовую шапку ды беражы яе толькі.

Зайшла маці з хлопчыкам у магазін. Выбрала яна шапку. Шапка аказалася вельмі цёплай, мяккай і хлопчыку спадабалася. Маці купіла яе. Хлопчык бярог гэтую шапку, але аднаго не ведаў ён—што зроблена яна была з тых кратовых скурак, якія восенню здабываў сівабароды дзед... восенню, калі чырванелі лісці асін, а дзікія гусі, сабраўшыся статкамі, спраўлялі ў завадзях развітальныя карагоды.





# Гаворачыя апараты











*Янка Маўр*

Рыс. М. Свяцкага

У адным доме сапсаваўся радыёпрыёмнік і яго аддалі ў рамонт. Як толькі вынеслі яго за дзверы, дык людзі адразу адчулі, што ў кватэры зрабілася пуста, нудна, нібы выехаў блізкі чалавек. Усе так прывыклі, што вунь у тым кутку быў «ён», кожны дзень гаварыў навіны, даваў розныя карысныя парады, даведкі, чытаў лекцыі, спяваў, граў, пацяшаў, а цяпер там ціха, пуста, не чуваць яго голаса, яго спеваў...

І сапраўды, мы так прывыклі да радыё, што зусім не думаем, якая гэта складаная, тонкая штука, якая гэта цудоўная рэч; зусім не дзівімся, якім чынам чалавек можа зрабіць яе.

Таму нам вельмі цікава было паглядзець радыёзавод імя Молатава, нядаўна пабудаваны ў Мінску. Завод гэты адзін з лепшых у Совецкім Саюзе.

Ён пабудован за 10 месяцаў; работа не спынялася ў самыя лютыя маразы мінулай зімы.

У велізарных, светлых і чыстых залах, цэхах зусім няма таго шуму, грукату і руху, які мы прывыклі бачыць на заводах. Даўгімі шарэнгамі стаяць невялікія блакітныя станкі. За імі сядзяць маладыя дзяўчаты і хлопцы і выразаюць нейкія бліскучыя кружочкі, рэжуць на кавалачкі бляшаныя істужкі, паперу.

Вунь і вялікая машына, якая робіць алюмініевыя каробачкі. Так-бы і глядзеў, як яна адным махам, мякка і плаўна, нібы з цеста, выціскае з бляхі прыгожую каробку.

Далей стаіць другая высокая машына. У сярэдзіне яе чатыры ямкі. Рабочы бярэ лыжачку горкага парашку і сыпле ў гэтыя ямкі. Потым закрывае іх, а праз мінуту вымае чорныя, бліскучыя, нібы металёвыя трубачкі, з падстаўкай, з дзірачкамі, нават з вінтавым нарэзам у сярэдзіне трубачкі.

А ў той невялікі станок па трубе ідзе медны дрот, а з другога канца, нібы зярняткі, сыплюцца прыгожыя вінцікі. Стаіць машына, працуе і ніякага чалавека ёй не трэба. Машына гэта заграні́чная, нямецкая. Але побач—другая такая самая машына, совецкая і працуе яна зусім не горш чым заграні́чная. У цэху ёсць некалькі пар падобных машын. Адну з іх зрабілі на Мінскім заводзе імя Варашылава. Мінулі тыя часы, калі ўсё заграні́чнае лічылася лепшым!

Майстар паказаў нам адну дэталь, так званы сардэчнік. Цікавага ў ім нічога няма: невялікі жалезны вінцік шэрага колеру—і ўсё. Але каб зрабіць гэты вінцік, трэба было спачатку з жалеза зрабіць муку, потым замясіць з яе на нейкай смале цеста і сціснуць яго так, каб зноў вышла жалеза.

У адным з цэхаў падклейваюць гучнагаварыльнікі, кладуць іх на талеркі і яны едуць у электрычныя печкі. Пакруціўшыся ў печцы, яны выязджаюць з другога боку ўжо сухімі.

Радыёпрыёмнік, як «жывая» машына, мае свае «нервы»: масу ўсялякіх правадоў і таўсцейшых і танейшых, як павуцінне, і медных, і жалезных, і сярэбраных, і алюмініевых, і цынкавых. Машыны

накручваюць іх на шпулькі так хітра, што ніводная чалавечая рука не магла-б гэтак зрабіць. Каб усе гэтыя правады выцягнуць у адну лінію, то яны працягнуліся-б на некалькі кілометраў. Нам паказалі адзін провад, падобны на звычайную чорную нітку. Аказалася, што ён складзены аж з дваццаці паасобных провадаў, ды яшчэ кожны з іх пакрыты лакам; а ўсе яны разам яшчэ два разы абмотаны шоўкам. І з усяго гэтага жмута вышла нітка! Раней такі провад выраблялі толькі заграніцай, а цяпер даручылі Ленінградскаму заводу «Севкабель»—ён і зрабіў.

Не малы быў Мінскі дрэваапрацоўчы завод імя Молатава, многа выпускаў ён розная прадукцыі, а цяпер ён зрабіўся невялікай дабудовай пры новым радыёзаводзе і вырабляе толькі скрынкі для прыёмнікаў. Але якія скрынкі! Трыста аперацый праходзяць яны, пакуль зробяцца годнымі для прыняцця складанага механізма прыёмніка.

Многа ёсць на свеце вялікіх і складаных машын, але наўрад ці знойдзецца такая, на якую пайшло-б 1500 назваў матэрыялаў, як ідзе на прыёмнік. З гэтых матэрыялаў вырабляецца 1700 розных дэталей. Ёсць асобны цэх, дзе з гэтых дробных частак спачатку складаюцца так званыя «вузлы», групы дэталей, каб потым з іх лягчэй было складаць увесь механізм.

Нарэшце з усіх цэхаў, з усіх куткоў вялізнага завода ўсе дэталі збіраюцца ў зборачны цэх. Сярод яго стаяць даўжэзныя сталы. На адным канцы стала рабочы злучае першыя дэталі і перадае свайму суседу. Той прымацоўвае дэталь і перадае наступнаму таварышу. На другім канцы стала прыёмнік ужо дае першы гук.

Але як яшчэ далёка ад першага гука да чыстага чалавечага голаса і музыкі! Колькі яшчэ трэба правяраць прыёмнік, наладжваць, рэгуляваць! Калі адна якая валасінка дзе-небудзь адарвецца, то прыёмнік ужо мёртвы. Калі якая гайка не моцна закручана, то прыёмнік хрыпіць. Але майстры добра ведаюць усе гэтыя капрызы і хутка прыводзяць прыёмнік у належны стан.

Першы прасцейшы, але вельмі добры прыёмнік носіць назву «Піонер». Наступны, больш складаны—«Кім». У далейшым, калі завод разгорнецца на поўны ход, будуць выпускацца і многія другія прыёмнікі.





# Байка пра казла

З народнага.
Апрацоўка А. Якімовіча

Рыс. М. Карпенка

Быў у бабкі казёл,
У Мар'янкі казёл!
Казёл сівенькі,
Сівагрывенькі.
Захацелася казлу
Ў чыста поле пагуляць.
Ды па ельнічку,



Па бярэзнічку.
Там спаткаў наш казёл
Воўка шэрага,
Воўка шэрага
Ды зубастага.
— Ці ты воўк, шэры воўк,
Ці ты заінька?
Дай паборамся з табой,
Дай падужаемся!
Як узяў воўк казла ды за грыву,
Як ударыў казла ён аб ніву,—
Ў казла вочкі глядзяць,
Нібы свечкі гараць.
Як узяў воўк казла ды за хвост,
Як ударыў казла ён аб мост,—
Ў казла вочкі глядзяць,
Нібы свечкі гараць.
Пайшла бабка шукаць
Казла сівага,
Сівагрывага
Ды па ельнічку,



Па бярэзнічку.
Там заместа казла
Напаткала ваўка,
Ваўка шэрага
Ды зубастага.
— Ах ты, воўчухна,
Ах ты, бацюхна,
Ці не бачыў ты казла,
Казла сівага,
Сівагрывага?
— Вунь рогі ля дарогі,
А галоўка пад яліначкай!
Села баба на ката,
Паехала да папа.
— Ах ты, бацюшка!
Ах ты, бацюхна!
Памяні майго казла,
Казла сівага,
Сівагрывага.
— Ах ты, баба дурная,
Хто-ж казла памінае?
Казла людзі заразаюць,
Шкуру тонкую знімаюць,



З шкуры шыюць боты
Казловай работы.
— Ах ты, бацюшка!
Ах ты, бацюхна!
Дам табе я рубля—
Памяні майго казла.
— Мала, баба, мала,
Прыбаў кусок сала!
Баба сала дала—
Памянуў поп казла.

# Дзед-Усевед

Да нас у рэдакцыю ўвайшоў нейкі стары дзед. Ён ветліва прывітаўся і сказаў:

— Будзем знаёмы, я—Дзед-Усёвед.

— Дзед-Усёвед?!—здзівіліся мы.—А чаму Усёвед?

— А таму, што ўсё ведаю...

Мы ўсе зацікавіліся. Дзед расказаў нам многа цікавага.

Раптам адчыніліся дзверы і ў рэдакцыю ўбег чырвоны ад марозу хлопчык. Яго завуць Сямён. Ён часта да нас заходзіць.

— Замёрз, га?—запытаў яго Дзед-Усёвед.

— Вельмі, вельмі, дзядуля, і рукі, і ногі памерзлі.

— І вушы?

— І вушы, і нос, дзядуля—замерз.

— А вочы?

— Не, вочы не,—адказаў Сямён.

— А чаму вочы не памерзлі?

— Не ведаю.

— А вы ведаеце?—запытаў дзед у нас.

І мы таксама не ведалі, чаму вочы не мерзнуць.

— Дык вось, слухайце. І дзед расказаў нам наступную цікавую гісторыю:

## Чаму не мерзнуць вочы?

Можна прамерзнуць. як кажуць, да мазга касцей. Бывае, што людзі адмаражваюць сабе вушы, нос, шчокі, пальцы, але яшчэ ніхто ніколі не скардзіўся на тое, што ў яго замерзлі вочы.

Сакрэт гэтага ў тым, што холад мы адчуваем не ўсёй паверхняй нашага цела, а толькі асобнымі пунктамі, у якіх аканчваюцца асобыя адчувальныя нервы. 250 тысяч „пунктаў холаду" раскідана па ўсяму нашаму целу. Але раскіданы гэтыя пункты нераўнамерна, у вобласці паясніцы іх вельмі многа. Кончыкі пальцаў таксама густа ўсыпаны імі.

А ў вачах „пунктаў холаду" няма зусім.

Таму і не мерзнуць нашы вочы.

Цяпло мы таксама адчуваем асобнымі „пунктамі цяпла". Іх на нашым целе 30 тысяч.

* * *

Яшчэ многа цікавага расказаў нам наш госць. Мы ўсе ўважліва слухалі.

Нарэшце ён сказаў:

— А, ведаеце, я да вас не выпадкова прышоў, а з прапановай: Няхай вашы чытачы задаюць мне любыя пытанні, а я буду на іх адказваць. І ўбачыце, што не будзе такога пытання, на якое я не мог-бы адказаць.

А я таксама буду задаваць вашым чытачам пытанні, задачы, загадкі. І хто з іх лепш за ўсіх будзе адказваць на мае пытанні, рашаць задачы і адгадваць загадкі, таму я буду даваць падарункі. А вось і першыя мае запытанні, задачы і загадкі:

1. Дзе можна пабудаваць такі дом, каб усе яго чатыры бакі выходзілі на поўдзень?
2. Якой хваробай ніхто на зямлі не хварэў?
3. Вадкае, а не вада, белае, а не снег.
4. Не лятае, не пяе, але клюе.
5. Кніга ў вокладцы каштуе 1 руб. 10 кап. Сама кніга даражэй вокладкі на 1 руб. Колькі каштуе вокладка і кніга паасобку?
6. Пільшчыкі рэжуць калоды на метравыя кавалкі. Кожны разрэз займае паўтары мінуты. У колькі мінут распіляць яны пяціметравую калоду?

* * *

Мы з вялікай ахвотай прынялі прапанову Дзеда-Усёведа і дамовіліся з ім, што за кожны правільны адказ на яго пытанне, рашэнне задачы і загадкі чытачу будзе залічана па 2 ачкі. Хто набярэ больш ачкоў атрымае падарунак Дзеда-Усёведа, а мы яго прозвішча надрукуем у журнале.

Рэбяты! Пісьмы Дзеду-Усёведу дасылайце да нас у рэдакцыю. Чакаем адказаў і вашых запытанняў Дзеду-Усёведу.

Пісьмы пішыце акуратна, граматна. Не забудзьце ўказаць свой дакладны адрас, школу, клас, у якім вы вучыцеся, і колькі вам год.

Адказны рэдактар Ф. КАНСТАНЦІНАЎ Афармленне М. СВЯЦКАГА Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ. Тэл. 2-38-54.
Друкарня імя Сталіна, Мінск. 20.000 экз. Зак. № 4617. [illegible] друк. арк. УК 5-2.

